

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№63 (1080) 4 красавіка 1995 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 533805 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.


## ФАКС
*ФАКТЫ *АРГУМЕНТЫ *КОММЕНТАРИИ *СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Правительства Беларуси и Германии намерены координировать свою деятельность в области борьбы с организованной преступностью, терроризмом и другими опасными видами преступлений.***

Для подписания межправительственного соглашения по данному вопросу в понедельник в ФРГ вылетел министр внутренних дел республики Юрий Захаренко.

❑

***Министры обороны России и США Павел Грачев и Уильям Перри подписали по итогам переговоров в понедельник в Москве два соглашения.***

Одно из них касается оказания помощи Соединенными Штатами России в обеспечении безопасности транспортировки стратегических ядерных вооружений из Беларуси, Украины и Казахстана.

❑

***Около 4,2 трлн. рублей будет выделено из бюджета России в 1995 году на работы по восстановлению экономики и социальной сферы Чеченской республики.***

Эта цифра заложена в утвержденной на днях федеральной целевой программе восстановления этой республики.

❑

***Бывший Председатель Верховного Совета России Руслан Хасбулатов вновь призвал стороны в конфликте в Чечне "остановить войну и перейти к мирному диалогу".***

Р.Хасбулатов в качестве первых шагов предлагает федеральным войскам прекратить бомбардировки городов и сел, полностью приостановить наступательные действия, а "бойцам сопротивления" прекратить партизанские операции.

❑

***Федеральной службой занятости России зарегистрировано 2 миллиона 181 тыс. граждан, ищущих работу, из них безработных — 1 миллион 839 тыс. человек, что составляет 2,3 процента трудоспособного населения страны.***

По данным ФСЗ, среди граждан, пытающихся найти работу, почти 60% составляют рабочие, около 23% ў- служащие и 17% — люди, не имеющие вообще никакой профессии.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 3 апреля снизился еще на 9 пунктов и составил 4908 рублей за доллар.***

### Канинулы, каникулы... гриппозная пора

***На целую неделю продлены весенние каникулы у гомельских школьников. Занятия начнутся лишь 10 апреля.***

Распоряжение по этому поводу принял горисполком. Основанием для такого шага послужила эпидемия гриппа. По сведениям городского центра гигиены и эпидемиологии, 40 процентов больных гриппом горожан, обратившихся в медучреждения за помощью, составляют школьники.

Но даже во время удлиненных каникул не все учащиеся будут находиться дома. Отдельные классы пяти городских школ вызовут на открытые уроки, которые дадут участники областного конкурса педагогического мастерства, запланированного на 4—6 апреля.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Театр любят, но... "бескорыстно"

***Большой моральной, но слабой материальной поддержкой явился для витебских "слуг Мельпомены" театральный марафон, продолжавшийся в течение суток.***

Профессиональные и самодеятельные актеры, развлекавшие публику на сцене Белорусского академического театра имени Якуба Коласа, не имели недостатка в аплодисментах и комплиментах, однако "сверхзадача" марафона не была выполнена: денег на ремонт сорванной ураганом и испорченной пожаром крыши театра собрать не удалось. Самыми крупными взносами "отметились" областной и городской исполкомы, совместное пожертвование которых составило 70 миллионов рублей. От зрителей добавилось только около 2 миллионов. "Крутые" бизнесмены, как выяснилось, искусству пока не сочувствуют. Из крупных фирм финансовую помощь марафону оказала лишь "Дайнова". Так что крыша останется дырявой...

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### А в терем тот высокий нет "хода" никому

***В январе—феврале 1995 года гражданами Беларуси приватизировано 21,9 тысячи квартир в домах государственного и общественного жилищного фонда общей площадью 1,1 миллиона квадратных метров против 44 тысяч квартир в январе—феврале 1994 года.***

С момента введения в действие Закона "О приватизации жилищного фонда в Республике Беларусь" в собственность граждан перешло 420,6 тысячи квартир общей площадью 21,6 миллиона квадратных метров. Всего с 1989 года по январь—февраль 1995 года собственностью граждан стали 535 тысяч квартир, или 31% от общего числа квартир, подлежащих приватизации.

Стоимость одной приватизированной квартиры в городских поселениях составила в январе—феврале текущего года 37 тысяч рублей, в сельской местности — 61 тысячу рублей за квартиру (дом).

### На большой дороге...

***30 марта в три часа ночи на дороге вблизи деревни Залейки Ивьевского района на автобус "Икарус" автокомбината №3 г.Москвы, следующего в Республику Польша было совершено нападение.***

Трое неизвестных под угрозой автомата и пистолета остановили автобус и, изъяв у пассажиров 15 тысяч 150 долларов США, а также 80 тысяч рублей РФ, скрылись.

**Павел ПРОТАСЕНЯ.**

### Закончено предварительное следствие

***Старшим следователем по особо важным делам при Генеральном прокуроре Республики Беларусь Язепом Бролишсом закончено предварительное следствие по делу обвиняемого в убийстве светлогорских детей.***

Арестованному, 26-летнему жителю Светлогорска, почти год назад предъявлено обвинение в нападении и убийстве на протяжении 1990—1993 годов шестерых мальчиков в возрасте от 9 до 14 лет. Останки двоих из них были найдены в близлежащем лесу горожанами. Еще два места, где обвиняемый убил и закопал свои жертвы, указал он сам.

**Николай ПОСЕДЬКО.**






Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.





Рисунок Олега ПОПОВА.

## Што вінен, аддаць павінен...

***У Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь старшынёй парламенцкай Камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву Уладзімірам Новікам была перададзена заява 72 дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб канстытуцыйнасці актаў ўрада Рэспублікі Беларусь, якія закранаюць разлікі з уладальнікамі аблігацый дзяржаўнай мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года. Карэспандэнт Белінфарма папрасіў кіраўніка парламенцкай камісіі больш падрабязна расказаць аб сутнасці дэпутацкай заявы.***

— Мы лічым, што ўрадам парушаны канстытуцыйныя правы грамадзян па сямі артыкулах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, — сказаў Уладзімір Новік. — Нагадаю, што ў адпаведнасці з артыкулам 9 Закона СССР "Аб дзяржаўным бюджэце СССР на 1990-ы год" ад 31 кастрычніка 1989 года Савету Міністраў СССР дазвалялася ў мэтах пакрыцця дэфіцыту саюзнага бюджэту на 1990 год выпусціць Дзяржаўную ўнутраную пазыку на суму 49 млрд. рублёў і рэкамендавалася саюзным рэспублікам для пакрыцця дэфіцыту сваіх бюджэтаў выпусціць аналагічныя рэспубліканскія пазыкі на агульную суму 10 млрд. рублёў. У адпаведнасці з Законам "Аб дзяржаўным бюджэце СССР на 1990 год" Савет Міністраў СССР прыняў пастанову "Аб выпуску дзяржаўных мэтавых беспрацэнтных пазык", у якой Саветам Міністраў саюзных рэспублік даручалася забяспечыць распаўсюджванне аблігацый дзяржаўных мэтавых беспрацэнтных пазык сярод насельніцтва праз працоўныя калектывы прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама выканкамы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў з далейшым пагашэннем у 1993 годзе. Сродкі, атрыманыя ад продажу ўказаных аблігацый, накіроўваліся ў даход саюзнага бюджэту для фінансавання першачарговых сацыяльных мерапрыемстваў.

Аблігацыі, як вядома, былі выпушчаны і распаўсюджаны. Бедны саюзны бюджэт быў папоўнены сродкамі грамадзян больш чым на 10 млрд. рублёў. Каб ні ў кога не было ілюзій аб аб'еме гэтых сродкаў, нагадаю, што даходная частка дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР на 1990 год была запланавана ў 11 млрд. рублёў.

У лютым 1992 года дзяржавы — удзельніцы СНД падпісалі Пагадненне аб прынцыпах і механізме абслугоўвання ўнутранага доўгу былога СССР. У адпаведнасці з гэтым Пагадненнем запазычанасць урада былога СССР адносілася на ўнутраны доўг дзяржаў СНД. Аднак урад нашай рэспублікі ў парушэнне агульнапрызнаных норм абароны правоў уласнасці прыняў шэраг пастаноў, якія абавязвалі грамадзян Беларусі ў прымусовым парадку здаць аблігацыі па цэнах, што не адпавядалі іх намінальнай вартасці, паколькі інфляцыя пачала імгненна абясцэньваць дзяржаўныя каштоўныя паперы.

### Кліча попел Бухенвальда

***У Германію на ўрачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю ўзброенага паўстання вязняў лагера смерці Бухенвальд, адбыла група з 9 чалавек, якую ўзначальвае ўдзельнік і адзін з арганізатараў тых гераічных падзей пінчанін П.І.Штоба.***

Паўстанне адбылося 11 красавіка 1945 года, калі больш за 900 членаў падпольнага руху, узброеных карабінамі, пісталетамі, самаробнымі гранатамі, бутэлькамі з запальнай сумессю, напалі на ахоўваючых лагер эсэсаўцаў. Нечаканасць нападу, самаахвярнасць і добрая арганізацыя выступу прынеслі перамогу. А пасля зняволеныя трое сутак трымалі абарону Бухенвальда, дзе знаходзілася больш за 200 тысяч чалавек, пакуль не падышлі войскі амерыканскіх саюзнікаў.

П.І.Штоба карыстаецца вялікай павагай сярод былых вязняў. На рахунку Пятра Іванавіча тры раненні і два ўцёкі з гітлераўскіх лагераў смерці.

**Пётр ЦІШУК.**

### Был, да весь вышел?..

***С 1 апреля на два-три месяца закрывается "для профилактических работ и замены оборудования" 8-й телеканал в Минске.***

Об этом заявил его руководству заместитель министра связи и информатики Анатолий Будай.

Исполнительный директор акционерного общества "Минское кабельное телевидение" Петр Черноморец отказался комментировать подоплеку этого заявления. Однако свою позицию 8-й телеканал высказал в письме в администрацию Президента. "В случае закрытия телеканала, — говорится в письме, — около полутора миллионов зрителей Минска и Минской области будут лишены полюбившихся им программ, что вызовет негативные процессы. Кроме того, около 30 творческих и технических сотрудников 8-го телеканала будут оставлены без средств к существованию, так как канал находится на самоокупаемости". Закрытие 8-го телеканала, говорится в письме, "даст повод СМИ формировать отрицательное общественное мнение о руководстве республики". Если замена оборудования настолько необходимая процедура, то руководство АО "МКТ" высказывает готовность предоставить техническую помощь в этом без отключения передатчика. Программное обеспечение, как сообщают авторы письма, имеется на 8-м телеканале до конца 1995 года.

22 марта руководству канала пришел ответ. Но не из администрации Президента, а из Министерства связи и информатики. В нем говорится: "Министерству связи и информатики разрешено продлить аренду передатчика с АО "МКТ" до 1 апреля 1995 года. В связи с этим АО "МКТ" необходимо в установленном порядке получить разрешение на аренду передатчика на последующий период. После этого могут быть рассмотрены вопросы о дальнейшей эксплуатации передатчика".

Не удовлетворенное ответом руководство 8-го канала повторно обратилось в администрацию Президента с просьбой продлить договор на аренду передатчика на пять лет. Администрация Президента пока не отреагировала на очередное письмо.

**Юрась ДУБИНА.**

## Прэзідэнт сустрэўся з землякамі

Тры дні знаходзіўся на Магілёўшчыне Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У абласным цэнтры яго дзелавая паездка пачалася з агляду моста, што будуецца цераз Днепр і з якім гараджане звязваюць надзеі на развязку транспартнага вузла. Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў дапамагчы зрушыць з мёртвага пункта гэты даўгабуд, з тым, каб ужо ў кастрычніку здаць мост у эксплуатацыю. На заводзе "Магілёўтрансмаш" ён пазнаёміўся з новай пад'ёмна-транспартнай тэхнікай, асвоенай машынабудаўнікамі, і сустрэўся з працоўным калектывам.

Дзве сустрэчы адбыліся ў Прэзідэнта з землякамі ў Шклове. Першая — з кіраўнікамі мясцовых прадпрыемстваў, арганізацый і гаспадарак, другая — з выбаршчыкамі. Выступаючы перад імі, Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў эканамічную і палітычную сітуацыю ў рэспубліцы, адказаў на шматлікія пытанні.

У суботу, 1 красавіка, Прэзідэнт пабываў на славутым Буйніцкім полі, дзе ўзводзіцца мемарыяльны комплекс, прысвечаны абаронцам горада. У ліпеньскія дні сорак першага года тут праходзіў пярэдні край абароны Магілёва. Узводзіцца ён за кошт сродкаў з бюджэту аблвыканкама, а таксама ахвяраванняў прадпрыемстваў, арганізацый і грамадзян — усіх, каму дарагая наша гісторыя, наша гераічнае мінулае і памяць аб тых, хто жыццём заплаціў за нашу свабоду. Аглядаючы гэту будоўлю, Прэзідэнт адзначыў, што ідэя і ініцыятыва магіляўчан па стварэнню помніка заслугоўваюць самай высокай ацэнкі, асабліва цяпер.

Аляксандр Лукашэнка наведаў у Магілёве абласныя краязнаўчы і мастацкі музеі, зрабіў запісы ў кнігах для ганаровых гасцей. Адбылася сустрэча кіраўніка дзяржавы з архіепіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім Максімам.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ,**
**Белінфарм.**

*Магілёў.*

## Эканамічны суд СНД: рашэнне на карысць Беларусі

***Эканамічны суд СНД прызнаў абгрунтаванымі прэтэнзіі Кабінета Міністраў Беларусі да ўрада Казахстана. 29—30 сакавіка ў штаб-кватэры СНД адбылося пасяджэнне калегіі Эканамічнага суда Садружнасці, на якім была разгледжана справа аб неналежным выкананні Казахстанам Пагаднення ад 4 сакавіка 1993 года паміж урадамі нашых рэспублік аб пастаўцы збожжа ўраджаю 1993 года і аказанні дапамогі ў яго ўборцы.***

Як вядома, казахскі бок не выканаў узятых на сябе абавязацельстваў па аплаце працы беларускіх механізатараў і выкарыстанню аўтатранспарту. У сувязі з гэтым беларускі ўрад, вымушаны ўзяць дадзеныя выдаткі на сябе, прад'явіў партнёрам іск на 2 971 201 долар ЗША. Акрамя тагс Казахстану трэба будзе аплаціць натурай больш чым 800 тон збожжа.

Разгледзеўшы справу з удзелам двух бакоў, калегія Эканамічнага суда вынесла свой вердыкт. Ён абвяшчае, што ўрад Казахстана не забяспечыў у поўным аб'ёме ўзятых на сябе міжурадавым пагадненнем абавязацельстваў. Эканамічны суд СНД рэкамендаваў таксама боку-адказчыку прыняць меры для пагашэння запазычанасці Беларусі па аплаце працы механізатараў і выкарыстанню аўтатранспарту.

Аднак пакуль што цяжка сказаць, ці будзе ўлічана Казахстанам гэтая рэкамендацыя. Справа ў тым, што механізм рэалізацыі рашэнняў Эканамічнага суда не распрацаваны і таму яны маюць рэкамендацыйны, а не абавязковы характар. Як адзначыла ў гутарцы з карэспандэнтам Белінфарма суддзя Анара Кірымбаева, у свой час шэраг дзяржаў СНД, у тым ліку і Казахстан, прапаноўвалі ўвесці абавязковасць выканання рэспублікамі рашэнняў Эканамічнага суда. Аднак гэту пазіцыю раздзялілі далёка не ўсе краіны — ўдзельніцы Садружнасці. Таму разлічваць на тое, што Казахстан адразу ж аддасць даўгі двухгадовай даўнасці, наўрад ці прыходзіцца. Тым больш, як сказаў у ходзе судовага разбору адказчык, грошай на выплату запазычанасці няма, валютныя сродкі могуць паявіцца толькі пасля ўборкі ўраджаю бягучага года. Праўда, на гэта беларускі бок запярэчыў, што сітуацыя з фінансамі ў Беларусі нічуць не лепшая, а даўгі трэба плаціць. Час пакажа, якія вывады зробіць для сябе з гэтай справы казахскі ўрад. Ну а для беларускага судовы разбор, магчыма, будзе чарговай падставай для разважання: ці варта ў далейшым супрацоўнічаць з ненадзейнымі партнёрамі? Таму што заключаючы ў 1993 годзе з Казахстанам пагадненне, беларускі ўрад ўжо меў горкі вопыт, сутыкнуўшыся з неплацяжамі гэтага ж боку за 1992 год. Аднак вывады тады не былі зроблены. А цяпер?

**Ларыса ЛАЗАР,**
**Белінфарм.**

РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

## Зваротны адрас — любоў і ўдзячнасць

***Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля", вядомы як арганізацыя, якая адпраўляе найбольшую колькасць дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў на адпачынак у Еўропу, на два наступныя тыдні ператвараецца ў буйнейшую прымаючую арганізацыю.***

Фонд сумесна з Міжнароднай асацыяцыяй гуманітарнага супрацоўніцтва прымае гасцей з Германіі, Аўстрыі, Польшчы і Італіі, тых, у каго апошнім часам адпачывалі беларускія дзеці. Чакаецца, што з гэтых краін да нас прыедзе больш за 200 грамадзян, якія найбольш шчыра аднесліся да чарнобыльскай бяды і вырашылі не абмяжоўвацца традыцыйнай дапамогай, а наведаць сваіх знаёмых дзяцей, каб лепш разабрацца ў іх патрэбах, замацаваць сяброўства і любоў. Цікава, што гэта ўжо трэцяя падобная акцыя, але, як адзначае яе арганізатар у ФРГ — інфармацыйны цэнтр "Чарнобыль", па колькасці жадаючых у ёй удзельнічаць цяперашняя пабіла ўсе рэкорды.

Арганізатары падрыхтавалі для гасцей цікавую, разнастайную і, як яны лічаць, вельмі карысную для агульнай справы праграму. Першыя тры дні ў ёй аддадзены наведванню сталіцы Беларусі: сустрэчам з грамадскімі і палітычнымі дзеячамі, вучонымі, медыкамі, прадстаўнікамі беларускіх дабрачынных арганізацый. Потым госці Беларусі паедуць у яе чарнобыльскую глыбінку, да дзяцей, якіх паспелі палюбіць і якія ў адказ дораць ім сваю любоў і ўдзячнасць. Цікава, што праграма візіту стасуецца і з надыходзячым 50-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне: шэраг мерапрыемстваў будзе насіць характар прымірэння паміж беларускім і нямецкім народамі і служыць умацаванню самай шчырай дружбы паміж нашымі грамадзянамі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.**

### Репрессированы были люди, пострадала культура

***В этом году празднуются сразу три юбилейные даты.***

100 лет исполняется белорусскому писателю Василию Сташевскому, 105 — литератору Янке Неманскому и 110 — публицисту и общественному деятелю Сымону Рак-Михайловскому. 5 апреля в Доме литератора планируется почтить память этих людей на вечере, не случайно названном "Пакутнікі Беларусі", так как все они были репрессированы в 1937—1938 гг. Исследователи творчества незаслуженно забытых личностей выступят с докладами.

**Александр КАЗАК.**

РЕПОРТАЖ ДНЯ

## С 1 апреля надо бросать курить. Кроме шуток

**Алесь СИВЫЙ**

***Как известно, президентским указом №116 с 1 апреля была введена акцизная марка на ввозимые из-за рубежа спиртные напитки и табачные изделия.***

Корреспондент "Народной газеты" решил сам посмотреть — что же такое акциз и "с чем его едят".

**Минувшая суббота. Привокзальная площадь. Первый день действия указа.**

В коммерческих ларьках, которые со всех сторон облепили вокзал, непривычно зияют пустотой полочки для сигарет. Остались лишь старые ценники: "L&M" — 5.500 руб., "Союз-Аполлон" — 3.200, "Мальборо" — 7.500.

— Сигареты есть? — заговорщицки шепчу в окошко "батискафа" молодому парню и встречаю в ответ недоверчивый, оценивающий взгляд.

— А ты случайно не из налоговой инспекции? — он, как страус, вытягивает шею и ищет по сторонам моих "налоговых сотоварищей". Убедившись, что никого подозрительного рядом со мной нет, скороговоркой выпаливает: "Элэм" — семь, "Мальборо" — девять тысяч".

Чуть поодаль от ларьков исправно работают "ходячие" торговые точки — тети преклонных лет с обостренным чутьем конъюнктуры. Сейчас в их скромных авоськах кроме пива, "Примы" и водки появились еще и импортные сигареты.

Милиция хотя и усердствует, но на месте одной "битой" тут же вырастают две "небитые" старушки. И вновь — торг продолжается.

**Понедельник. Комаровский рынок. Третий день действия указа.**

После долгих поисков наконец-таки нахожу один "комок", в котором сигареты выставлены с акцизными марками: "L&M" — 8.000 рублей, "Магна" и "Союз-Аполлон" — по семь тысяч. Другие ларьки, видимо, продают старые запасы уже по новым ценам из-под полы. Неудивительно. За каждый литр импортируемого спиртного нужно заплатить государству акциз в 1,5 доллара, за каждые 50 пачек импортных сигарет — 3 доллара, а это, как видно, не входит в планы коммерсантов. Удивительно другое. Указ о введении акцизной марки действует, а "мелкорозничная торговая сеть" действует по своим указам. Не верите? Пройдитесь по коммерческим ларькам.



## В канун 1 апреля началась всеобъемлющая ревизия чековой приватизации

27 марта Президент Республики Беларусь А.Г.Лукашенко подписал распоряжение о приостановке деятельности специализированных инвестиционных фондов и комплексной проверке их деятельности. Слухи о решении Президента дошли до Мингосимущества и ЧИФов лишь 30 марта после проведения первого республиканского чекового аукциона. А 31 марта в Министерство по управлению государственным имуществом и приватизации наконец-то поступило и само распоряжение, на которое оно было вынуждено тут же отреагировать своим письмом Сберегательному банку и специализированным инвестиционнным фондам, аккумулирующим приватизационные чеки "Имущество".

Руководствуясь Временным положением о лицензировании деятельности специализированных инвестиционных фондов, Мингосимущество приостанавливает действие выданных всем фондам лицензий на деятельность с именными приватизационными чеками "Имущество". По чековым счетам фондов разрешается лишь проведение операций по зачислению чеков, принимаемых от населения. Возможность проведения иных операций исключается. Одновременно должна быть проведена проверка соблюдения требований постановления Кабинета Министров по представлению инвесторами деклараций об объемах и источниках инвестиций при приобретении ценных бумаг субъектов хозяйствования и именных приватизационных чеков.

**Сергей ВЕРАС.**

### Памёр Пімен Панчанка

**Беларуская культура панесла цяжкую страту. 2 красавіка пасля працяглай хваробы на 78-м годзе жыцця памёр народны паэт Беларусі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, ганаровы член Акадэміі навук Беларусі Пімен Емяльянавіч Панчанка. Развітацца з нябожчыкам можна будзе ў Доме літаратара 4 красавіка з 11.00. Грамадзянская паніхіда пачнецца ў 14.00. Пахаванне паэта адбудзецца ў гэты ж дзень на могілках па Маскоўскай шашы.**

**Белінфарм.**

У КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## Няхай рассудзіць Канстытуцыйны суд

***Пытанні, якія прапанаваў вынесці на рэферэндум Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, могуць аказаць уплыў не толькі на палітычную сітуацыю ў рэспубліцы, а і на яе становішча як незалежнай дзяржавы. Такое меркаванне выказаў старшыня парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч на яе пасяджэнні 30 сакавіка.***

Калі па пытаннях, якія датычацца адносін да сучаснай дзяржаўнай сімволікі, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і ўнясення змяненняў у Канстытуцыю, было вырашана пагадзіцца з высновамі Камісіі па заканадаўству (два першыя яна назвала кансультатыўнымі, неабавязковымі для рэферэндума, трэцяе не можа быць унесена, бо за паўгода да заканчэння работы гэтага парламента такія захады забараняе сама Канстытуцыя), то прапанова надання статусу дзяржаўнай рускай мове амаль аднагалосна была названа членамі камісіі незаконнай і нават спекуляцыйнай. На іх думку, яна парушае артыкул трэці Закона аб рэферэндуме, і таму першае пытанне "Ці згодны вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?" павінна быць адхілена. Такое рашэнне будзе накіравана ў Прэзідыум сесіі Вярхоўнага Савета. Камісія вырашыла звярнуцца ў Канстытуцыйны суд, каб той пацвердзіў адпаведнасць першага пытання трэцяму артыкулу Закона аб рэферэндуме.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА,**
**Белінфарм.**

## Вада — халодненька, а цана — кусаецца

**Віктар ХАРОШКА**

Можа, гэтыя нататкі і здадуцца сёння неактуальнымі — вясна ж на двары, але паразважаць над некаторымі фактамі трэба менавіта зараз.

Размова пойдзе... пра цяпло. А дакладней, пра тое, як камунальныя службы і Мінскцепласеткі абдзіраюць на роўным месцы суб'екты гаспадарання.

Раней, калі плата за гарачую ваду і цяпло каштавала капейкі, ніхто нават не звяртаў увагі на сумы пералічэнняў. Але апошнім часам, асабліва пачынаючы з 1 студзеня бягучага года, цэны на названыя паслугі не тое, што "паляцелі" — яны абваліліся. Невялічкі, напрыклад, магазін нумар адзінаццаць Заводскага АРПК мусіў заплаціць у студзені 14 мільёнаў рублёў, а ўжо ў лютым — 18 мільёнаў. Хочаш не хочаш, схопішся за галаву: такіх грошай хапіла б, каб выдаць усяму калектыву месячны заробак, яшчэ і засталося б.

Пачалі разбірацца. Аказваецца, па існуючаму палажэнню, плата налічваецца за кожны квадратны метр карыснай плошчы. У магазіне ж з 394 м² ацяпляецца ўсяго крыху больш за 160. Астатняя плошча пад падсобнымі памяшканнямі, у якіх нават батарэй няма.

Кіраўніцтва магазіна забіла трывогу, маўляў, перамерайце ацяпляльныя плошчы і бярыце грошы толькі за іх. Ды дзе там. З Заводскага райвыканкама просьбу "перакінулі" ў ЖРЭА, ЖРЭА — у Мінскцепласеткі, апошнія адпісаліся, што неўзабаве прышлюць спецыяліста і на месцы вырашаць, што рабіць. Больш за паўмесяца шлюць. А грошыкі капаюць. У кішэню Мінскцепласетак, дарэчы. Дык куды, скажыце, ім спяшацца.

Такіх выпадкаў, як з адзінаццатым магазінам, у Мінску хоць адбаўляй. Дзяржаўнага рэгулявання гэтай праблемы няма, таму кожны гаспадарнік стараецца знайсці выхад са становішча сам па сабе. І кожны паасобку даведваецца пра жудасныя рэчы.

Напрыклад, пра тое, што гарачая вада павінна падавацца на аб'ект, у тым ліку і ў жылыя памяшканні, не ніжэй за 60 градусаў. Можна нават і не гаварыць, што норма гэта далёка не вытрымліваецца.

Ці ведае хто пра тое, што натуральныя страты цяпла за час транспарціроўкі да спажыўца складаюць ад 10 да 30 працэнтаў? А сабекошт яго вытворчасці кладзецца, зразумела, на суб'ект гаспадарання і простага кватэранаймальніка. Зноў жа, на такія "дробязі" раней ніхто не звяртаў увагі.

Цяпер шукаюць выйсце.

Я асабіста ведаю некалькі кропак грамадскага харчавання, кіраўнікі якіх набылі лічыльнікі, што выкарыстоўваюцца ва ўсім свеце. Дык, думаеце, іх лёгка ўстанавіць? Манапалісты за мізэрную работу патрабуюць ледзь не з дзесятак мільёнаў рублёў.

Сёння, напярэдадні лета, зімовым цяплом займаюцца адзінкі гаспадарнікаў. Кватэранаймальнікі пакуль што "спяць у шапку". Але ж позна будзе біць у званы, калі цепласеткі "распрануць" зусім. У рыначных адносінах лічыць трэба як з аднаго, так і з другога боку. А калі так, то не пазбегнуць нам бліжэйшай восенню эксцэсаў.

## Я вырвалася і пабегла званіць

**Іван ГЕРАСЮК,**
**аглядальнік па пытаннях маралі і права**

Дом-інтэрнат для псіхічна хворых у Капыльскім раёне заўсёды быў "залатой жылай" для тых, хто меў доступ да яго засекаў. Можна было, напрыклад, прынесці з дому падраныя прасціны і замест іх узяць новенькія, можна было замест шпротаў падсунуць пацыентам кільку ці замест 20 бляшанак тушонкі пакласці ў кацёл 10, а астатнія забраць сабе і г.д. Хворыя ўсё роўна гэтага не заўважаць і не зразумеюць.

Час ад часу міліцыі ўдавалася лавіць найбольш заўзятых несуноў, але гэта праблему не вырашала. У рэшце рэшт дырэктар развіталася са сваёй пасадай і яе змяніў Васіль Лявонцьевіч Сянюк, які меў неблагі вопыт ... агранома. Наводзіць парадак ён пачаў звыклымі калгаснымі метадамі.

Аднойчы раніцай ён зайшоў у бухгалтэрыю і распарадзіўся, каб галоўны бухгалтар ехала ў раён на зверку дакументаў. Святлана Зямлянская катэгарычна запярэчыла:

— У мяне ёсць больш важныя справы. Пашлю падначаленых.

Відаць, такога ў кіруючай практыцы Васіля Лявонцьевіча яшчэ не здаралася. Як гэта так, каб яго загады аспрэчваліся! Тым больш што сярод падначаленых галоўнаму бухгалтару была і яго дачка. Разгарэлася спрэчка.

— Я папрасіла дырэктара выйсці з кабінета і не перашкаджаць працаваць, — расказвае Святлана. — Тады ён падбег да мяне і ўдарыў кулаком у плячо, а потым некалькі разоў у твар. Я схапілася за тэлефон, каб пазваніць у міліцыю, але ён мяне адкінуў убок. Я вырвалася з бухгалтэрыі і пабегла званіць з іншага тэлефона.

Пры ўсім гэтым прысутнічала бухгалтар Ірына Новік.

— Дырэктар біў Свету, стоячы спінай да мяне, — успамінае Ірына. — Пасля, калі Света вырвалася, ён крыкнуў мне: "Бяры працоўную кніжку! Яна пакідае работу па ўласнаму жаданню!"

Святлана Зямлянская паехала ў той дзень у міліцыю. Пасля амаль што два тыдні ляжала ў бальніцы. Экспертыза пацвердзіла факт пабояў.

Начальнік Капыльскага РАУС Мікалай Міхайлавіч Бердніковіч з уласцівай яму прамалінейнасцю зазначыў:

— Тут і экспертызы не трэба было. Такі "фінгал" пад вокам...

Сам жа дырэктар дома-інтэрната для псіхічна хворых больш распавядаў пра свае кіруючыя здольнасці, пра тое, як ён змагаецца з несунамі, эканоміць бензін і г.д. Што датычыцца таго інцыдэнту, Васіль Лявонцьевіч катэгарычна адмяжоўваўся ад бойкі:

— Так, я ўстаў з крэсла, падняў руку, каб паправіць шапку, і толькі... Я запатрабую незалежнай экспертызы!— абяцаў Васіль Лявонцьевіч .— Я разбяруся і з міліцэйскай паесткай, якую ёй выпісалі, каб апраўдаць адсутнасць на рабочым месцы.

Перабіраючы паперы, Васіль Лявонцьевіч даверліва дзяліўся сваімі падазрэннямі:

— А адкуль у скарзе ўжо звольненага работніка самыя свежыя факты, якія вядомы толькі галоўнаму бухгалтару? Мне і з бальніцы званілі, што дыягназ — поўная сімуляцыя. Калі яна прынесла бюлетэнь, я адразу западозрыў... Мне дакладваюць, што яна адкрыта гаворыць: "Давайце звольнім дырэктара і тады будзем круціць такія справы..."

Мяркуючы па ўсім, канфлікт ў калектыве дома-інтэрната будзе працягвацца. А там, дзе ён, не можа быць нармальнай работы. І ў выніку пакутаваць будуць людзі, якіх і без таго пакараў лёс.

Гэта гісторыя — не выключэнне, а распаўсюджаная хвароба. У кіруючыя крэслы садзіліся раней і часта садзяцца цяпер людзі, якія паняцця не маюць ні пра псіхалогію ўзаемаадносін, ні пра этыку, ні нават пра тую справу, якой ім даверана займацца. Галоўнае, што ад іх патрабуецца, — адданасць вышэйстаячаму начальству. Такая якасць, як вядома, найбольш выдатна выпрацоўвалася ў наменклатурным павуцінні.

Сакратар Капыльскага райкама КПБ Алена Скрыган пасля бясслаўнага краху роднай партыі ўзначаліла ў райвыканкаме аддзел сацыяльнага забеспячэння. Менавіта да яе звярнулася Святлана Зямлянская з просьбай разабрацца ў сітуацыі. На жаль, Алена Мікалаеўна так і не выбрала часу (ва ўсялякім выпадку на момант напісання гэтага артыкула). Яно і зразумела, перадвыбарная кампанія камуністаў, якім Алена Мікалаеўна захавала вернасць, патрабуе шмат сіл.

У Філіпавічах дом-інтэрнат для псіхічна хворых. Гэта медыцынская ўстанова. Але чаму тады яна не падпарадкоўваецца Міністэрству аховы здароўя? Таму што так склалася. Як склалася ўсё і ўсюды пры савецкай уладзе.

## Усе сцягі ў госці да нас

***У Мінску падпісана пагадненне аб адкрыцці крэдытнай лініі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця для фінансавання беларускіх прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу.***

Павелічэнню вытворчасці прамысловай прадукцыі і будаўнічых матэрыялаў, насычэнню рынку таварамі народнага спажывання і паслуг насельніцтву будзе садзейнічаць рэалізацыя праграм грамадства з абмежаванай адказнасцю "Арт-Атэкс", СП "Светлес" і яшчэ пяці прыватных прадпрыемстваў рэспублікі. Яны аднымі з першых паспяхова вытрымалі конкурс на атрыманне доўгатэрміновых пазык (да сямі гадоў) па крэдытнай лініі ЕБРР. Аб гэтым паведамілі журналістам на прэс-канферэнцыі старшыні праўленняў "Белбізнесбанка" і "Прыорбанка" Казімір Турута і Сяргей Касцючэнка, выбраныя міжнароднай фінансавай арганізацыяй у якасці партнёраў і падпісаўшыя пагадненне.

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця ўпершыню выдзеліў грашовыя сродкі недзяржаўным прадпрыемствам рэспублікі. Крэдытная лінія "каштуе" 30 мільёнаў долараў. Характэрнай асаблівасцю праекта з'яўляецца тое, што ў ім могуць удзельнічаць вытворчыя калектывы з колькасцю працуючых не больш чым 500 чалавек і фіксаванымі актывамі толькі да 2 мільёнаў долараў. Пры гэтым доля ўзносу кліента ў ажыццяўленне праграмы павінна складаць не менш чым 30 працэнтаў яе кошту. Гарантам вяртання банкаўскага крэдыту можа служыць паручыцельства трэцяй юрыдычнай асобы, ці залог маёмасці ўдзельніка праекта, вытворцы матэрыяльных сродкаў на суму 130 і больш працэнтаў ад аб'ёму пазыкі.

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця і яго партнёры з Беларусі дапускалі да конкурсу на атрыманне доўгатэрміновых крэдытаў толькі тыя прадпрыемствы, на якіх тэхналогія вытворчасці адпавядае мясцовым і міжнародным правілам аховы навакольнага асяроддзя.

**АЛЯКСАНДР ВАЛАВОЙ,**
**Белінфарм.**

МАЙСТРЫ





## Як слязінка, чыстая крынічка

Народны майстар па пляценню з саломкі Вера Салдатава ўжо даўно і трывала заняла своеасаблівую нішу ў беларускім мастацтве. Адметны, амаль ні з кім не параўнальны стыль яе работ, вытанчаны густ, высокае майстэрства, невычэрпная фантазія, якую сілкуюць чыстыя крынічкі традыцый беларускай народнай творчасці, — усё гэта ў нейкай ступені характарызуе гэтую мілую, абаяльную жанчыну і таленавітую мастачку.

Саламяны капялюшык, створаны яе рукамі, можа ўпрыгожыць галоўку самай патрабавальнай красуні. Аздобіў жа шыкоўны саламяны капялюш Веры Салдатавай галоўку першай лэдзі ЗША Хілары Клінтан!

Прыгажосць і велічнасць адрозніваюць усе рэчы, зробленыя Верай. Такія яе царскія вароты, што сталі набыткам Нацыянальнага музея.

**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ.**
**Фота аўтара.**

## Сімбіёз вытворцаў і перапрацоўшчыкаў

***Спаўнілася запаветная мара сялян. Яны атрымалі права на набыццё 40 працэнтаў акцый пры прыватызацыі перапрацоўчых прадпрыемстваў. Такі пакет дае магчымасць не толькі кіраваць, але і несці адказнасць за іх гаспадарчую дзейнасць.***

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Міністэрстве па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, ужо афіцыяльна ўзаконены парадак перадачы каштоўных папер адкрытых акцыянерных таварыстваў сельгасвытворцам. Ім рэгламентуецца працэдура змены адносін уласнасці дзяржаўных, арэндных і абслуговых прадпрыемстваў. Яна будзе ажыццяўляцца міжведамаснымі камісіямі на падставе загаду аб пераўтварэнні перапрацоўчых прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы.

## У малалетніх бадзяг таксама ёсць правы

***У 1994 годзе ў нашай краіне за бадзяжніцтва было затрымана больш за 16 тысяч непаўналетніх. 2053 з іх, якія ўцяклі з дому, дзіцячых дашкольных устаноў і інтэрнатаў, а таксама тыя, хто застаўся без бацькоўскай апекі, змяшчаліся ў прыёмнікі-размеркавальнікі для непаўналетніх. Нядаўна органы Пракуратуры Рэспублікі Беларусь правялі праверку захавання законнасці ў дзейнасці гэтых часовых прытулкаў для малалетніх бадзяг, якая таксама закранула і цесна звязаныя з імі інспекцыі па справах непаўналетніх, органаў апекі.***

Праверкай устаноўлены значныя недахопы дзейнасці прыёмнікаў. У прыватнасці, быў выпадак, калі работнікі аднаго з прыёмнікаў, у які з гарадской звалкі было дастаўлена шасцёра дзяцей ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў, вярнулі іх маці, пазбаўленай народным судом бацькоўскіх праў.

Здараюцца і незаконныя затрыманні са змяшчэннем у прыёмнік-размеркавальнік непаўналетніх. Яркім прыкладам таму можа служыць затрыманне на мінскім чыгуначным вакзале 16-гадовай Ларысы Д. і змяшчэнне яе ў прыёмнік як пакінуўшай без дазволу дом. Як потым высветлілася, на вакзале дзяўчынка апынулася, едучы да бацькоў з Гродна, дзе яна вучыцца ў педвучылішчы.

Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь унесена прадстаўленне міністру ўнутраных спраў, у якім прапанавана неадкладна прыняць меры па ліквідацыі парушэнняў.

## "Банга" аб'яўлена банкрутам

Не вытрымалі напружання рыначнай эканомікі акцыянеры буйнейшага Каўнаскага навукова-вытворчага аб'яднання "Банга", вядомага сваімі тэлевізарамі "Шыляліс" і іншай электроннай тэхнікай. Гэтымі днямі НВА "Банга" аб'яўлена банкрутам.

Калектыў, які налічвае каля 10 тысяч супрацоўнікаў, практычна застаецца без работы і павялічвае такім чынам сацыяльную напружанасць у Літве.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, Белінфарм.**

*Каўнас.*

# Несбыточная мечта?

## или Почему белорусский Пудун до сих пор не построен?

**Олег ГРУЗДИЛОВИЧ,**
**обозреватель "Народной газеты"**

***СПРАВКА "НАРОДНОЙ ГАЗЕТЫ": Пудун — район Шанхая (КНР), ставший визитной карточкой китайской политики "реформ и открытости". За сравнительно короткое время после объявления Пудуна зоной, свободной для иностранных инвестиций, отсталая окраина превратилась в ультрасовременный город с развитой инфраструктурой и высокотехнологичной промышленностью. Особый налоговый режим, другие льготы и привилегии, дарованные правительством Китая Пудуну, способствовали его быстрому превращению в один из крупнейших финансово-экономических центров тихоокеанского региона. Опробованный здесь эксперимент широко применяется в других районах Китая, помогая его скорейшей модернизации и повышению жизненного уровня населения.***

### Минская Сухаревская башня

Башни такой в Минске нет. Она — плод моих фантазий, мираж жителя столичного микрорайона-новостройки, проводящего в переполненном автобусе четверть светового дня. Дело в том, что рядом с моим Сухаревом, унаследовавшим имя ближайшей деревушки, находится бывшее НПО "Центр", на территории которого, как выяснилось, и планируется развернуть свободную для инвестиций зону наподобие тех, что тянут Китай в лоно западной цивилизации. Условное название этой зоны — Технопарк, а включать она будет площади рядом с деревней Сухарево, одноименным микрорайоном и в районе станции Масюковщина. Планируется, что со временем сюда хлынут западные инвестиции, начнется бурное строительство, так что, не исключено, охочие до архитектурных изысков бизнесмены построят здесь не только стайку небоскребов, но и высоченную телебашню на манер той, что возведена в Пудуне, которую за ее причудливый вид уже называют Жемчужиной Востока. Мои мечты о Сухаревской башне, которая может стать символом Минска (а ведь у него до сих пор нет общепризнанного архитектурного символа), подкрепляются тем расчетом, что создание Технопарка должно начаться со строительства так называемого телепарка — системы, обеспечивающей быструю и надежную телефонную связь со всем миром с помощью спутника.

Но (трижды постучим по дереву) как бы не сглазить эти фантастические прожекты. Как бы не сорвалось такое благое дело — устройство зоны экономического благоприятствования. Нам, минчанам из микрорайона Сухарево, оно сулит дополнительные объекты соцкультбыта и возможное решение транспортной проблемы. Ведь на сегодняшний день на весь громадный микрорайон всего два магазинчика, а с центром города его связывает, по сути, один автобусный маршрут. Конечно, я согласен, что наши надежды — это только наши надежды. Но ведь и городу реализация проекта даст огромные выгоды. Какие конкретно?

**Технопарк.**

**(Из вопросника к проекту совместного предприятия "Стенфорд Техно-Центр РБ")**

***— Сколько можно создать рабочих мест в трех частях Технопарка?***

*— 60 тысяч. Из них 20 тысяч будут созданы непосредственно на предприятиях Технопарка, а 40 тысяч — на специально созданных для поддержки его потребностей. При этом около 100 тысяч человек получат работу на действующих предприятиях республики за счет кооперативных связей и заказов.*

***— Сколько отраслей промышленности уже проявили интерес к Технопарку?***

*— 38 отраслей. В основном это область коммуникаций, машиностроение, легкая промышленность, торговля.*

***— Сколько западных фирм будет привлечено к созданию Технопарка и к какому сроку?***

*— 250 иностранных фирм, из которых более 150 уже выразили готовность создать свои предприятия в Технопарке ко времени завершения его строительства весной 1998 года. Ожидается открытие свыше 500 местных или совместных предприятий для обслуживания Технопарка.*

***— Сколько и какие фирмы активно рассматривают сегодня возможность своего участия в Технопарке в ожидании решения правительства Республики Беларусь?***

*— Более 150 компаний только из США. Среди них такие известные, как Levi Strauss and Company (производство одежды), Union Carbide (химические вещества), Chemical Bank (банковский капитал), Coca-Cola, Pepsiko (напитки), Paccar (автомобили), Auto Desk (компьютеры), Glaxo (лекарства), General Instrument (электроника), American Express (финансовые услуги), Marriott (бытовая электроника) и другие весьма именитые.*

*...И последний, может быть, самый важный вопрос.*

***— Что получит от осуществления проекта республиканский бюджет?***

*— По предварительным расчетам, только прямые поступления в бюджет составят до 250 миллионов долларов в год, без учета дополнительных источников поступления средств за счет продажи недвижимости, коммунальных услуг, обслуживания лицензий.*

### Зачем ходить по миру с шапкой?

Само собой понятно, что реализация столь крупномасштабного проекта потребует времени и средств. Однако известно, что если за дело берутся иностранные инвесторы и если они очень захотят, то сроки строительства подобных объектов ужимаются до минимальных по нашим меркам. Были бы деньги. По расчетам, объем инвестиций в Технопарк должен быть не меньше 11 миллиардов долларов, а реализован проект будет за 3—4 года. Освоение 11 миллиардов за столь короткое время — просто фантастический для нашей республики допинг. Сравните: по сведениям немецкой газеты "Neues Deutschland", с 1991 года западные инвесторы вложили в Беларусь всего 18 миллионов долларов (в Венгрию больше 6 миллиардов!) Кстати, проекту Технопарка вскоре исполнится 3 года, его реализация уже могла завершаться, если бы у нас позаботились о выгодных для инвесторов условиях. Эти 11 миллиардов уже сейчас приносили бы нам реальную пользу, помогая закрывать дыры в бюджете (сейчас он трещит как тришкин кафтан). Увы... Проект Технопарка не только не сдвинулся с места, но, натурально, погряз в бюрократическом болоте. И проблема не только в том, что наша неуклюжая государственная машина никак не поспевает за требованиями дня, что наш парламент до сих пор не принял во втором чтении закон об особых экономических зонах, что никак не решится правительство предоставить руководству совместного предприятия необходимые полномочия, без которых иностранцы за дело не возьмутся. За всеми этими оргпроблемами видится одна громадная и вместе с тем малюсенькая преграда: это человеческая зависть, это наша неготовность принять чей-то успех, чье-то богатство как необходимое условие для постепенной эволюции и обогащения общества. Руководство бывшего НПО "Центр", который нынче называется СП "Стенфорд Техно-Центр РБ", столкнулось с этой макропроблемой на своем микроуровне. И ничего поделать с ней не может. Кто-то невидимый постоянно вставляет палки в колеса. Кто-то постоянно мешает проходить нелегкую дистанцию форварда. Кто-то, возможно, думает, что если "скинуть" директора СП и посадить в руководящее кресло своего человека, то на будущее обеспечены и "зеленые" подношения, и престижные места для детей и родственников, и другие блага, перечень коих наш не избалованный комфортом человек может продолжать до бесконечности. Строителям замков на песке невдомек, что даже под самую замечательную идею на Западе не дадут ни цента, если не верят в ее авторов, не знают их лично, если с ними не сложились доверительные человеческие отношения. Следовательно, сегодня менять коней на переправе — значит, потерять всех солидных инвесторов и начинать все сызнова, причем много лет спустя.

Теперь давайте разберемся, какие же у нашей стороны шансы добиться успеха.

### Флагман среднего машиностроения

Это уже ни для кого не секрет: одно из лучших предприятий союзного министерства среднего машиностроения НПО "Центр" работало на оборону. Если быть точным — на космическую, ракетную и ядерную технику бывшего СССР. Уникальные центробежные установки (диаметром от сантиметров до десятка метров), построенные в НПО "Центр", позволяют испытывать на реальные нагрузки целые спутники или составные части космических звездолетов. Этим невероятным машинам посвятил значительную часть своей научной и производственной жизни Валерий Шаплыко — первый и единственный директор НПО "Центр", его создатель. Благодаря этим разработкам он стал признанным авторитетом в Союзе. А потом — когда о предприятии стало больше известно за океаном — в мире. Однако долго купаться в лучах славы не пришлось. Распад Союза принес НПО "Центр" полную ликвидацию заказов и финансирования. Уникальное предприятие было буквально на грани того, чтобы повесить на свои ворота амбарный замок. Но нет худа без добра. Не потому ли сегодня НПО "Центр" оказалось на острие борьбы за выход на рынок передовых технологий, что с трудностями, которые обрушились на наши заводы сейчас, там столкнулись еще четыре года назад? Предприятию пришлось резко перепрофилироваться. Сегодня, не изменив своему основному назначению, оно выпускает также аттракционное оборудование, остановки для городского транспорта, различные сувенирные изделия, которые отправляются на экспорт и приносят заводу валюту, столь необходимую для поддержания "боеготовности".

Но зачем нужно сохранять эти громадные установки, уникальные технологии?

Когда три года назад Валерий Шаплыко поставил задачу создать проект свободной инвестиционной зоны, у него не было иллюзий: в нашем идеологизированном обществе идея благополучного оазиса, созданного как бы в пример и в назидание окружающему хаосу, обречена на неприятие. Другое дело — сделать ставку на технологический прорыв. По замыслу Валерия Шаплыко, технологический прорыв НПО "Центр" должен привлечь инвесторов, готовых вкладывать деньги в развитие уникальных производств. Однако реальность такова, что без определенных льгот и привилегий даже на высокие технологии, как на наживку, инвесторы не клюнут. И действительно, время идет, а их, с чемоданами долларов, все не видно. Почему?

**(Окончание следует.)**

## Францыя ўшаноўвае Беларусь

***З 3 па 8 красавіка ў Паўночным дэпартаменце Францыі, горадзе Лілі, праходзяць Дні Беларусі. У рамках мерапрыемстваў экспануюцца выстаўкі графічных работ выкладчыкаў і студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў, дзіцячага малюнка — удзельнікаў першай рэспубліканскай выстаўкі "Вясёлка-94", а таксама фотавыстаўкі "Чарнобыль — наш боль" і "Беларусь", прысвечанай Максіму Багдановічу.***

Канцэрты майстроў мастацтваў рэспублікі пройдуць не толькі ў Паўночным дэпартаменце, але і ў штаб-кватэры "Народнай дапамогі" ў Парыжы. У дэпартаменце Па-дэ-Кале выступіць фальклорны калектыў з Магілёва. У Ронскім дэпартаменце запланаваны выступленні ансамбля "Ведрыца" Мінскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча, у час якіх будуць выкананы творы беларускага кампазітара Генадзя Ермачэнкава, напісаныя для сумеснага выканання з Французскім сімфанічным аркестрам. З вялікай праграмай выступіць таксама мінскі ансамбль народнай музыкі і танца "Бліскавіцы".

*г.Мінск.*

## Добра там, дзе нас няма

***У лютым мінімальная зарплата ў Літве была меншай, чым у Латвіі і Эстоніі, але значна большай у параўнанні з зарплатай у Беларусі — такія даныя дэпартамента па статыстыцы пры ўрадзе Літвы. Так, у Латвіі яна складала 51,76 долара, у Эстоніі — 36,96, у Літве — 25 "зялёных". А вось што датычыць Беларусі, то тут мінімум зарплаты ў дзесяць разоў ніжэйшы — усяго 2,67 долара.***

Што датычыць налічанай заработнай платы за люты месяц, то ў нашых суседзяў — у Літоўскай дзяржаве — яна складала амаль 110 долараў, у Латвіі — 165, а ў Эстоніі — больш як 172 амерыканскія долары.

Грамадзяне ж Беларусі ў тым жа месяцы ў сярэднім атрымалі па 33,23 долара. Аднак, як адзначаюць літоўскія статысты, у гэтай рэспубліцы цэны на прадукты харчавання, жыллё і транспарт значна ніжэйшыя, чым ва ўсіх трох дзяржавах Балтыі.

**Тэрэза ХАЮЦІНА,**
**Белінфарм.**

